# МІЖНАРОДНАЯ МОВА.

Усе мы ведаем і адчуваем, як ня добра, што людзі на зямлі дзеляцца на шмат народаў, жывуць паасобку, адносяцца адзін да другога воража і нават не разумеюць адзін аднаго, бо гаворадь на розных мовах.

Асабліва гэта шкодна для працоўных усяго сьвету, якім вельмі цяжка дагаварыцца, аб'яднацца, каб разам пайсьці супроць капіталістых.

Багатыя маюць магчымасьць вывучыць розныя чужаземныя мовы, яны між сабой лягчэй і хутчэй зносяцца, а бедныя павінны сядзець і чакаць, пакуль ім перакладуць і паднясуць другія. А сустрэўшыся адзін з адным будуць размаўляць на мігі, бы нямыя.

Зразумела, лепшыя людзі даўно ўжо ламалі галаву, каб знайсьці адзіную, агульную мову для ўсіх. Каб кожны чалавек пасьля сваёй роднай мовы вучыў толькі адну чужую, агульную.

Думалі былі прызнаць за такую мову францускую ці ангельскую, але другім народам гэта няпрыемна: чаму-ж гэта францускую, а не нямецкую, ці не італьлянскую і г. д. Апрача гэтага той народ, чыя мова была абрана, меў-бы вялікую пераваrу над іншымі і занадта ўжо „зарабіў-бы" на гэтай справе.

І, нарэшце, як усім вядома, дасканала вывучыць чужаземную мову вельмі цяжка і доўга. Вось, напрыклад: у нас у сямігодцы 3-4 гады вучаць нямецкую мову, але ня толькі ва ўсёй Беларусі, але нават ува ўсім СССР вы ня знойдзеце аніводнага вучня, які ўладаў-бы нямецкай мовай.

І вось, роўна 40 гадоў назад была створана *нічыя* мова, агульная, якая складаецца з усіх галоўных моваў: і францускай, і нямецкай, і ангельскай, і лацінскай, і нашых славянскіх і г. д.

З гэтых моваў выбрана ўсё лепшае і лягчэйшае. І ў першую чаргу ў яе ўвайшлі ўсе тыя словы, якія самі праз сябе зрабіліся агульнымі, увайшлі ўва ўсе мовы, напрыклад: тэлефон, тэлеграф, апарат, радыё, пошта, электрычнасьць, рэволюцыя, экономіка, гісторыя, географія, літаратура і шмат сот падобных.

З граматыкай зроблена таксама. Узяты толькі самыя неабходныя і лёгкія правілы (усяго 16).

Такім чынам, склалася міжнародная мова *эспэранто*, якую вывучыць ужо ў 10 разоў лягчэй за нямецкую, францускую і іншыя.

Як-жа цяпер стаіць справа з ёй?

У кожнай старонцы знаходзяцца людзі, якія вывучылі гэтую мову, так званыя эспэрантыстыя. Яны выдаюць газэты і часопісі, складаюць організацыі і зносяцца паміж сабой бяз усякіх перашкод.

*(Працяг гл. на 3 стар. вокладкі).*



Афрыканскія дзеці.

ЗЬМЕСТ.



Рэдколегія: **Г. Брыгневіч, С. Жураўскі, М. Мамчыц, А. Пякарчык, А. Якімовіч.**

Адказны рэдактар **А. Пякарчык.**

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 14** **ЛІПЕНЬ** **1927 г.**



Каля кастра.




Апавяданьне **А. Коласава.**

Малюнкі **Вало.**

I

Адзін раз увечары да Дзянкінага бацькі прышоў хлапец Пенча. Твар у яго быў вельмі змучаны і голас сумны. Пенча прывітаўся, сеў на лаўку і ціха сказаў бацьку:

— Усіх семярых да пятлі прыгаварылі. У нядзелю пасьля імшы вешаць будуць.

Бацька зьбялеў, хвілінку памаўчаў, потым запытаўся:

— Няўжо і Гірку павесяць?

— І Гірку павесяць,—адказаў Пенча, а ў самога на ваччу сьлёзы.

Бацька вылез з-за стала, падышоў да Пенчы і скарагаворкай сказаў:—За што? Ды за ім-жа ніякай віны няма! Калі ў яго кніжку аб Леніне знашлі, дык хіба-ж за гэта можна чалавека вешаць... Потым і аб тым трэба яшчэ падумаць, што Гірку ўсяго толькі 17 год... Зусім хлопчык яшчэ!

— Нашто ты мне ўсё гэта кажаш?— сказаў бацьку Пенча.—Хіба я ня ведаю, што Гірку толькі 17 год? Хіба ня люблю яго, як брата роднага? Ды ня я-ж яго на сьмерць засудзіў, а нашы вяльможы. У прысудзе, які чыталі ў судзе, значыцца, што Гірку павесяць за тое, што ён комсамолец і за вучэньне Леніна стаіць.

Кажа гэта Пенча, а па яго твары сьлёзы коцяцца. Бацька паглядзеў на хлапца ды сам заплакаў.

Маленькі Дзянка падбег да бацькі і запытаўся:

— Тата! Калі Гірку павесяць, дык ён мёртвы будзе? Значыцца, мы з ім ня будзем хадзіць рыбу лавіць?

Бацька падняў Дзянку на рукі, пацалаваў і ціха прамовіў:

— Так, Дзянка! Загінуў, загінуў наш любы Гірка. За працоўны народ загінуў.

Дзянка зразумеў, што ён ня ўбачыць ужо вясёлага Гірку, і моцна-моцна заплакаў.

Юнак Гірка жыў на іхнім двары. У яго ня было ні бацькі, ні маткі. Працаваў ён на чыгунцы і часта прыходзіў вечарамі да Дзянкінага бацькі. Быў ён вясёлым, шмат сьмяяўся, добра пеў розныя песьні, а ў вольныя ад працы дні хадзіў разам з Дзянкіным бацькам, з Дзянкам і хлапцом Пенчам на раку Марыцу лавіць рыбу. Часам яны адыходзілі ад гораду вёрст за дзесяць і заставаліся там на ўсю ноч. Дзянка вельмі любіў гэтыя ночы. На небе дрыжэлі і ніклі яркія зоркі. У кустах і на сенажаці пелі срэбныя песьні птушкі. У паветры пахла кветкамі і травой. А на палянцы гарэў вялікі агонь, на якім варылася ў кацялку смачная каша.

А бацька, Пенча і Гірка сьпявалі песьні. Песьні гэтыя вельмі падабаліся Дзянку. Але больш за ўсё ён любіў песьню аб батраку Кірыльчу, якога злосныя людзі закавалі ў ланцугі, засадзілі ў турму, а потым ноччу зарэзалі. Гэтую песьню пеў адзін толькі Гірка, і то ціха, быццам ён баяўся, што хто-небудзь падслухае яе.

Адзін раз Дзянка запытаўся ў Гіркі:

— Гірка! А навошта людзі закавалі батрака Кірыльча ў ланцугі, навошта зарэзалі?

Гірка ціха адказаў:

— Таму яго ў ланцугі закавалі і зарэзалі, што дамагаўся ён сьветлага жыцьця для гаротных людзей і для нас з табою. Кірыльча хацеў злосны капітал перамагчы і такое жыцьцё на зямлі пабудаваць, як Ленін вучыў.

Бацька Дзянкін памяшаў лыжкай кашу ў кацялку і сказаў Гірку:

— Што ты апавядаеш аб гэтым Дзянку? Хіба ён можа зразумець такія рэчы?

А Гірка ўсьміхнуўся і кажа:

— Ого! З нашага Дзянкі такі комсамолец выйдзе, што ўсім комсамольцам комсамолец...

— Ну, а ты цішэй, — зазначыў бацька,—падслухае нас які-небудзь шпік і ўсім нам крышка.

Гірка замоўк, паківаў галавою і ўжо зусім ціха сказаў:

— Адчуваю я, што не дажыць мне да рэволюцыі і ня ўбачыць радаснага і сьветлага жыцьця. А вось ён, Дзянка, убачыць!

Хутка пасьля гэтай лоўлі рыбы ў пакоі Гіркі быў вобыск. Жандары знашлі ў яго кніжку аб Леніне і адну паперку, у якой было напісана што Гірка—комсамолец. Яго арыштавалі, закавалі ў ланцугі і адвялі ў турму. Потым судзілі разам з другімі комсамольцамі. Усе судзьдзі былі буржуі. Яны засудзілі комсамольца на сьмертную кару. І калі Дзянка даведаўся ад бацькі, што Гірку павесяць, ён горка заплакаў...

II

Напярэдадні таго дня, калі павінны былі павесіць комсамольца, Дзянка доўга ня спаў. Накрыўшыся коўдрай, ён слухаў, як яго матка апавядала бацьку аб пажары ў вёсцы Бінкос. У гэтай вёсцы сяляне не змаглі сабраць столькі грошай, колькі патрабаваў баўгарскі ўрад. Мужыкі распрадалі кулакам увесь свой хлеб, зьвялі на рынак коняй і кароў, нават курэй усіх папрадавалі, а грошай усё-такі сабраць не змаглі. Тады ў вёску прыехаў атрад гэрыл (так у Баўгарыі называюцца стражнікі), атрад гэты стаў рабаваць у сялян усё, што ў іх заставалася. Гэрылы да сьмерці забівалі людзей, расстрэльвалі іх, адну бабу старую, якая назвала іх рабаўнікамі, прыканапацілі штыхамі да варот.

Сяляне не змаглі перанесьці гэтых зьдзекаў і ўзьнялі супроць гэрыл паўстаньне. Ноччу, калі гэрылы спалі, яны ўзялі ў іх вінтоўкі і шаблі, а раніцой выгналі з вёскі.

Калі аб гэтым даведаўся баўгарскі ўрад, ён загадаў другому атраду страляць па вёсцы Бінкас з гарматаў. І вось ноччу атрад падвёз да вёскі дванаццаць гармат і стаў страляць з іх у хаты, па царкве, па хлявох. Вёска адразу загарэлася ў пятнаццаці мясцох, і пад агнём, пад снарадамі загінулі амаль што ўсе мужыкі, бабы і малыя дзеці.

Вось аб гэтым і апавядала ў той вечар бацьку Дзянкіна маці.

Потым Дзянка чуў, як бацька сказаў маці:

— Заўтра будуць хлапцоў вешаць. Я пайду, хоць здалёку гляну ў апошні раз на Гірку... А ты пойдзеш?

— Не,—адказала маці,—не пайду. Я ня вытрымаю, заплачу, а жандары скажуць, што я таму іх шкадую, што я сама комуністка, і мяне арыштуюць.



Так, Дзянка! Загінуў наш любы Гірка...

— Гэта праўда,—сказаў бацька,—плакаць нельга, а то да бяды недалёка.

А Дзянка, як толькі пачуў, што бацька пойдзе заўтра на пляц, выскачыў з пасьцелі і кінуўся да яго:

— Вазьмі мяне! Я таксама хачу ў апошні раз на Гірку глянуць.

Бацька рукамі замахаў:

— Ашалеў ты! Хіба можна табе такія рэчы глядзець?!

А Дзянка заплакаў:

— Я,—кажа,—яго надзвычайна кахаю. Мне шкода Гірку. Калі ня возьмеш, я захварэю...

Кажа гэта Дзянка, а сам ад сьлёз і жальбы, што Гірку заб'юць трасецца ўвесь.

— Ну, добра,—сказаў, урэшце, бацька.—Вазьму. Але ты глядзі: трымай сябе ціханька...

Прышлі яны на пляц, калі там было ўжо шмат народу. Пасярэдзіне пляцу стаялі чатыры шыбельніцы, каля шыбельніц хадзілі салдаты і каты.

Дзянкін бацька стаў ля плоту і закурыў. Да яго падышоў Пенча, потым якаясь жанчына і дзядзька Хрысто, што жыў недалёка ад Дзянкінай кватэры.

Жанчына сказала бацьку:

— Іх хутка прывядуць, але павесяць толькі пасьля імшы. Зараз усё начальства ў царкве богу моліцца. Там і цар Барыс. Цар таксама будзе на кару глядзець.

Дзянкін бацька запытаўся ў жанчыны:

— А хто гэтыя людзі, што каля шыбельніцы ходзяць?

— Гэта каты,—адказала жанчына.— Іх нанялі, каб яны павесілі комсамольцаў.

У гэты час да плоту падышоў натаўп рабочых. Разам з імі быў і сын дзядзькі Хрысто, маленькі Георг, з якім Дзянка вельмі сябраваў.

Георг падышоў да Дзянкі і ціха сказаў:

— Што ты тут стаіш? Тут добра вялікім стаяць: яны высокія і ўсё ўбачаць. А нам трэба наперад ісьці.

Дзянка аглянуўся на бацьку, бацька глядзеў у другі бок і аб чымсьці гутарыў з жанчынай.

— Ну, пойдзем хутчэй,—зноў сказаў Георг і схапіў Дзянку за руку.

Хлапцы хутка пабеглі наперад.

Народу на пляцы станавілася ўсё больш і больш. Георг і Дзянка, трымаючыся за рукі, пралезьлі скрозь натаўп да бар'еру. Бар'ер быў вялікі і тоўсты, а за ім хадзілі салдаты і каты. Дзянка паглядзеў на шыбельніцы і ўбачыў, што на трох шыбельніцах вісіць па дзьве вяроўкі, а на чацьвертай толькі адна вяроўка. Пад кожнай вяроўкай стаіць высокая тумба. Каты курылі папяросы, сьмяяліся і аб нечым голасна гутарылі. А афіцэр адзін лётаў па коле і моцна крычаў:

— Не націскай! Не націскай! Калі хто зойдзе за бар'ер, таго расстраляем...

Прайшло хвілін дзесяць. На званіцы раптам зазванілі ўсе званы, і нехта недалёчка ад Дзянкі крыкнуў:

— Вядуць!

— Вядуць!—паўтарылі сотні галасоў і раптам стала так ціха, быццам на пляцу ня было ніводнага чалавека. На званіцы перасталі званіць. Дзянка глянуў улева і ўбачыў чалавек дваццаць салдат. Яны трымалі ў руках блiскучыя шаблі і павольна падыходзілі да шыбельніц. Дзянка сьпярша не разумеў у чым справа, і толькі тады, калі салдаты супыніліся каля шыбельніц, ён убачыў, што яны прывялі комсамольцаў. Усіх комсамольцаў было сем чалавек. На руках і нагах у іх зьвінелі кайданы, твары былі белыя, вочы блішчэлі.

Бліжэй усіх да Дзянкі стаяў Гірка. Дзянка ледзь пазнаў яго, таму што на твары ў Гіркі чырванела вялікая крывавая шрама, і аднаго вока ў яго ня было.

Дзянка рвануў за руку Георга і запытаўся:

— А дзе ў Гіркі вока? І чаму яго твар у крыві?

—Яго білі жандары, — шопатам сказаў Георг.

Гірка глядзеў на натаўп, і Дзянку паказалася, што ён шукае Дзянкінага бацькі ці Пенчу, ці яго, Дзянку.



Вёска адразу загарэлася ў пятнаццаці мясцох.

„Вось,—падумаў хлапчына,—калі-б у яго было лвое вачэй, ён убачыў-бы мяне“.

І ў маленькім Дзянкіным сэрцы рап-

тоўна загарэлася такая жальба да Гіркі, што ён хацеў крыкнуць:

— Добры дзень, Гірка! Мы ўсе тут!

Але ў гэты момант зноў зазванілі ва ўсе званы, і з царквы вышаў цар Барыс, генэралы, афіцэры, чыноўнікі ў мундзерах, увабраныя пані і дзяўчаты.

Яны ўзышлі на вялікі памост; пані і дзяўчаты селі ў крэслы, а цар гутарыў з чыноўнікам.

Дзянка глянуў зноў на Гірку, і зразумеў, што няшчасны таварыш глядзіць на яго і хоча яму ўхмыльнуцца, але ня можа, таму, што баліць твар. Дзянка памахаў яму рукой і некалькі раз пакланіўся. Гірка таксама пакланіўся.

Потым адзін афіцэр моцна крыкнуў:

— Сьмірна!

І вынуў якуюсьці паперу, разгарнуў яе і стаў чытаць. Але не пасьпеў ён прачытаць і некалькі слоў, як раптам пачуўся сьпеў. Гэта запелі комсамольцы:

„Паўстань, пракляцьцем катаваны,
Паўстань, хто з голаду век пух.
Бурліць наш разум ўзбунтаваны,
Няволі, кліча, рваць ланцуг".

Дзянка прыслухаўся і адразу пазнаў голас Гіркі. Ён пеў мацней усіх, і голас яго нібы срэбра зьвінеў.

Афіцэр павярнуўся да званіцы, махнуў рукой, і званар зноў зазваніў ва ўсе званы. Царкоўны звон быў вельмі моцным, але комсамольцы ўсё яшчэ пелі, і Дзянка выразна чуў срэбны голас Гіркі. Яму таксама хацелася пець і ён запеў-бы, каб ведаў словы песьні.

Калі комсамольцы перасталі пець і замоўклі званы, да Гіркі падышоў бацюшка і стаў нешта гаварыць. Гірка ўзьняў рукі, кайданы ў яго зазьвінелі, ён заткнуў пальцамі вушы і адвярнуўся да бацюшкі сьпіной. Бацюшка падышоў да другога комсамольца, але і той зрабіў тое, што і Гірка.

Тады афіцэр крыкнуў катам:

— Па-а-чы-на-а-а-ай!

Катаў было сем чалавек. Яны ўзялі комсамольцаў і павялі іх да тумбаў. На тумбах ляжалі белыя саваны. Калі адзін кат надзеў на самага высокага комсамольца такі саван, дык у яго ня стала відаць твару. Так шыюцца гэтыя саваны.

Да Гіркі падышоў кат у чырвонай сарочцы і з чорнай барадой.

Ён хацеў накінуць на Гірку саван, але Гірка замахаў галавой і рукамі. Дзянка зразумеў, што Гірка хоча памерці без савана, і паміраючы, глядзець на яго, на Дзянкінага бацьку, на Пенчу і на ўсіх, каго ён кахаў і за каго зараз загібае.

Але да Гіркі падышлі тры салдаты і схапілі яго за голаву і ручныя кайданы. А Гірка вырваўся да памосту, дзе былі цар, генэралы і знатныя чыноўнікі, і крыкнуў:



Дзянка прыслухаўся і пазнаў голас Гіркі.

— Эй, вы, каты! Комсамольцы не баяцца сьмерці! Яны сьмела глядзяць ёй у твар!

Але ў гэты час салдаты схапілі яго яшчэ мацней, і цыган накінуў на яго саван.

Усіх комсамольцаў паставілі на тумбы, падвязалі да іх шыяў вяроўкі, але каралі ня ўсіх адразу, а па аднаму. Сьпярша павесілі самага высокага комсамольца. Прывязаўшы да яго шыі вяроўку, цыган адышоў на некалькі крокаў ад тумбы, потым разагнаўся, стукнуў нагой па тумбе, тумба скаланулася, павалілася на зямлю, а комсамолец застаўся вісець на вяроўцы. Дзянка бачыў, як дрыгала пад саванам яго цела, як ён махаў нагамі і потым зьвіс нярухома.

— Сканаў!—сказаў нехта ззаду Дзянкі.

Гірку павінны былі павесіць трэцім.

Дзянка глядзеў на яго і думаў:

„Ён нікога ня бачыць і ня ведае мабыць, што тут бацька, Пенча, дзядзька Хрысто і ўсе. Ён зараз памрэ і ні ад кога не пачуе: „Бывай, Гірка, мы цябе будзем памятаць!“

І Дзянка ўспомніў апошнюю рыбную лоўлю і песьню Гіркі аб батраку Кірыльчу, які дамагаўся для гаротных людзей шчасьлівага жыцьця.

Хлопчык успомніў потым, як сьмяяўся Гірка і як ён называў Дзянку комсамольцам. Усплыло ў памяці Дзянкі і тое, як нядаўна, усяго некалькі хвілін таму назад, Гірка бачыў яго, хацеў яму ўхмыльнуцца, але ня мог, таму што ўвесь твар быў у крыві.

Успомніў усё гэта Дзянка, і сэрца яго сьціснулася ад жальбы і гора.

— Бывай, Гірка!—крыкнуў ён на ўвесь пляц. І ўбачыў раптам, што цыган адышоў ужо ад тумбы і хоча зараз-жа разагнацца, вытнуць нагой па тумбе, каб Гірка зьвіснуў на вяроўцы.

Ня памятуючы сябе, хлапчук пераскочыў праз ланцуг і кінуўся да Гіркі. Распасьцёршы ручкі, ён бег да шыбельніцы, але дабегчы не пасьпеў: афіцэр, які крычаў нядаўна, што ён расстраляе ўсіх, хто выйдзе за бар‘ер, падбег да Дзянкі і з рэвольвэра стрэльнуў проста ў дзіцячыя грудзі.

Дзянка паваліўся вобзем і задрыгаў усім сваім целам. А ў гэты момант на шыбельніцы дрыгала ўжо цела Гіркі.

Дзянка і Гірка сканалі ў адну і тую-ж хвілінку.

(Канец).



Акцябраты.

# Лаццароні[1]



— „Зірні на Нэаполь, а потым памірай!“.

Так кажуць італьлянцы аб гэтым горадзе. І багатыя людзі з усіх канцоў Эўропы зьяжджаюцца, каб зірнуць і не памерці, не, а добра пажыць, пагуляць. І сапраўды, прыгожа тут, вельмі прыгожа. Цёмна-сіняе ціхае мора стварае прыгожую Нэаполітанскую затоку. На берагох багатыя пекныя віллы (палацы) бялеюцца з-за пальмаў апэльсінаў, лімонаў, лаўраў і іншых, заўсёды зялёных расьлін. Самы горад атачае пекнае каменьне ўзьбярэжжа, дзе заўсёды прагульваецца шмат вясёлых, шчасьлівых людзей. А з боку, як вартаўнік, стаіць вулькан Вэзуві і курыць сваю люльку...

Зіма тут складаецца з 2-3-х дажджыстых васеньніх тыдняў, а рэшта лета; прычым і гарачыня ня бывае звыш 24-х градусаў. Неба заўсёды чыстае, сіняе; туманаў ніколі ня бывае; дождж не затрымліваецца, праходзіць хутка.

Вось на ўзьбярэжнай ідзе вясёлая кампанія людзей—два мужчыны і тры жанчыны. Усім яны цікавяцца, да ўсяго прыглядаюцца і ўсё ім падабаецца. Адразу відаць, што гэта прыежджыя.

—Во і лаццароні. Пазнаёмцеся!—зьвярнуўся да жанчын адзін з мужчын. На каменных сходнях сядзеў хлопчык гадоў 12-ці, боўтаў нагамі па-над вадою. Чорныя валасы, чорныя вялікія вочы і цёмны загарэлы худы твар. На плячох кавалкі кашулі, з-пад якой на тры чвэрці галееца загарэлае цела. Адна штаніна ададраная зьнізу вышэй калена, а другая зусім выдрана збоку.

А які ён цікавы!

— І нават адзеньне неяк падыходзіць да гэтай чароўнай старонкі!

— Праўду кажуць, што гэта найлепшы куток. Нават бедным добра жыць, ня трэба клапаціцца аб адзеньні, цяпле. Нямнога трэба, каб пражыць.

І нашы добрыя пані шчыра верылі, што ўсім тутака добра жывецца, што ўсе тут шчасьлівыя. І нават гэты маленькі лаццароні, створаны дзеля таго толькі, каб надаць цікавасьць і прыгожасьць усёй карціне..

Мужчына выцягнуў з кішэні манэту і, паказаўшы хлопчыку, кінуў яе ў мора.

— Піль!..

Не пасьпела манэта апусьціцца на дно, як хлопчык нагнаў яё і вынырнуў з вады, трымаючы грошы ў зубах.

— Маладзец! Брава!—крыкнулі пані і нават захлёпалі рукамі...

Але падбегла яшчэ некалькі такіх самых дзяцей. І калі кінулі яшчэ монэту, у вадзе пачалася свалка. Тымчасам падбеглі яшчэ трое дзяцей гадоў 5-6, яшчэ больш абадраныя і запэцканыя. Яны пачалі пець, скакаць, прадстаўляць нейкія тэатральныя сцэны.



Піль!..

— Бачце, бачце! Такія маленькія і такія спрытныя! Як яны вольна трымаюц

[1]) Італьянскі бяспрытульны.

ца!—зацікавіліся паны і кінулі ім некалькі монэтак.

— Здольны і вясёлы народ,—гаварылі прыежджыя, ідучы далей уздоўж мора: зусім не такія, як у нашых паўночных краёх. Адразу відаць, што прырода іх песьціць.

Ззаду і сьпераду ціха і мякка праносіліся аўтомобілі і з першага ўзроку нельга было разабрацца, што ў іх знаходзіцца, ці людзі, ці копы кветак.

А па блакітнаму мору ўва ўсе бакі плылі гандолы (лодкі), убраныя дыванамі, кветкамі і закрытыя ад сонца шоўкавымі павецьцямі.

„Нэаполь нельга ня любіць. Каб вы толькі пражылі ў ім адзін дзень, дык ужо ўсё сваё жыцьцё, уздыхаючы, успаміналі-б гэты дзень. Тутака забываешся аб усім на сьвеце і толькі жывеш шчасьцем і прыгожасьцю прыроды. Можна сьмела сказаць: Спыніся, падарожнік. Нічога лепшага ты ўжо ня ўбачыш!“

Так кажа адзін вялікі пісьменьнік. І ўсе прыежджыя паны адчуваюць тое самае.

А калі надыходзіць ноч, тады бераг і мора загараюцца агнямі, рознакаляровыя фэйервэркі ўздымаюцца ў паветра, адусюль нясецца салодкая музыка, асабліва з мора, з гандол. І тады пачынаеш разумець, чаму гэта кажуць: „Зірні на Нэаполь, а потым памірай!“.

* * *

Ці адчуваў гэта Джузэппе, той самы хлопчык, які лавіў грошы ў вадзе? Пазіраць на Нэаполь—ён пазіраў, але паміраць ён ня зьбіраўся. Бо яму ўдалося добра пад'есьці. На злоўленыя грошы ён купіў жменю макаронаў, кукурузавую шышку і некалькі смажаных каштанаў. Такой роскашы ён даўно ўжо ня бачыў. Мала таго, яму і назаўтра засталося некалькі чэнтызімаў*).

Джузэппе быў лаццароні, панашаму кажучы, бяспрытульны. Такіх бяспрытульных у Нэаполі (800 тысяч насельніцтва) заўсёды было шмат, нават і перад вайной. Ды ня толькі дзеці, нават бяспрытульныя дарослыя лічацца тутака тысячамі. Нідзе на сьвеце няма столькі бяспрытульных, колькі ў гэтым горадзе, дзе прыежджыя багатыя людзі „забываюць аб усім на сьвеце і толькі жывуць шчасьцем ды прыгожасьцю прыроды“...

Чаму і як зрабіўся Джузэппе лаццароні, ён і да гэтага часу добра ня ведае. Здарылася гэта тады, калі яму было гадоў 5-6. Жыў ён, як і ўсе добрыя людзі: у маленькай цёмнай бруднай халупе, меў бацькоў і старэйшага брата Паоло. Бацька яго дзесьці працаваў, здаецца, на нейкай фабрыцы. Але вось аднаго разу прышлі нейкія людзі ў чорных кашулях і чамусьці пачалася мятусіна, крыкі, страляніна, загарэлася суседняя хата, потым іхняя. Матка самлела і, здаецца, згарэла ў вагні, а бацька са стрэльбай у руках застаўся забітым на вуліцы. Джузэппе пабег куды вочы глядзяць, заблытаўся, ды так і застаўся пад „чароўным небам“.

Што такое здарылася—ён не разумеў. Памятае толькі, што людзей у чорных кашулях называлі „фашыстымі“. Потым ён часта бачыў на вуліцах цэлыя атрады гэтых фашыстых з музыкай, са сьцягамі, але яны ні на кога ня кідаліся, не забівалі. Аднаго разу нават нейкі фашысты даў яму некалькі чэнтызімаў.

Потым ён чуў рознае аб гэтых фашыстых. Адны казалі, што гэтыя людзі хочуць, каб рабочыя і ўся бедната пакорна працавалі на карысьць багатых і не асьмельваліся-б нават і думаць аб палепшаньні свайго становішча. А другія казалі, што фашыстыя добрыя людзі, што яны клапоцяцца аб тым, каб бацькаўшчына Італія была найвялікшай і наймацнейшай ад усіх дзяржаў. Але ён не разумеў усяго гэтага і не разважаў. Ён толькі добра памятаваў, што яны забілі яго бацьку, а сам ён галадуе, ня мае прытулку і ніякай радні. А трэба сказаць, што ён не заўсёды скардзіўся на свой лёс.

У такія дні, як сёньня, калі ён зарабіў некалькі чэнтызімаў, ён быў зусім шчасьлівы. А радні ён меў досыць: усе лаццароні былі яго радней...

* * *

Надышоў вечар. Вось над касьцёлам сьвятога Януарыя (Гэты „сьвяты“ лічыцца абаронцам Нэаполя) узьляцела ракета, другая. Потым зазванілі званы. Сьціхлі званы—зноў ракета. Потым зноў...

---

*) Чэнтызім—меней паловы капейкі.

Гэта заманьваюць народ у царкву. Вопыт паказаў, што на ракеты народ ахвотней ідзе, чымся на звон або запрашаньні. Пашоў і Джузэппе. На гэты раз набажэнства было больш важнае: павінен быў адбыцца цуд—кіпеньне крыві сьв. Януарыя. Цэрамонія з цудам робіцца два разы ў год і кожны раз цягнецца цэлы тыдзень.

Вынесьлі на сярэдзіну касьцёлу срэбную статую Януарыя, пачалі яе з малітвамі апранаць. Потым прынесьлі шкляную каробачку, у якой і была кроў гэтага Януарыя. Гэты сьвяты зрабіўся з старадаўняга бога Януса за некалькі сот год перад хрысьціянствам; яго імем назвалі і месяц „январ“ (студзень). Ксёндз узяў у рукі каробачку, паказаў народу і, трымаючы высока каля сьвечкі, пачаў маліцца. Народ стаў шчыра дапамагаць, шаптаць, сьпяваць, выкрыкваць; кроў някіпела. Тады некаторыя сталі злаваць, папракаць Януарыя, што ён ня хоча паказаць цуд. Бабы пачалі плакаць, а мужчыны нават крыху... лаяцца. І вось, нарэшце, кроў закіпела*).


Прасьвятая, памажы.

Народ застагнаў ад радасьці і зьдзіўленьня. Стаў шчыра хрысьціцца і Джузэппе. Тут ён убачыў у кутку, перад абразом маткі боскай, свайго знаёмага лаццароні Пэруччы, хлапца гадоў 20-ці. Ён так шчыра кленчыў перад абразом, што нічога не заўважваў навокала, нават і вялікага цуду. Джузэппе праціснуўся да яго і дакрануўся да пляча. Пэруччы азірнуўся і сказаў:

— Вось добра, што я цябе ўбачыў. Ты мне патрэбен.

— Навошта?

— Справа ёсьць!

— Якая?

— Зараз скажу, пачакай...

І, адвярнуўшыся, ён стаў маліцца далей. Ён так шчыра шаптаў, што Джузэппе нават мог разабраць словы.

— Прасьвятая ўладычыца, памажы. Ну хоць адзін раз. Табе гэта нічога ня варта. А я за гэта пастаўлю табе сьвечку ў тры ліры*). А калі добра зараблю, дык і болей. Мінулы раз не дапамагла. Хоць цяпер дапамажы. Дзьве,— пяць сьвечак пастаўлю. Зьмілуйся. А не,—дык прымусіш мяне зусім адвярнуцца ад цябе.

Пэруччы ўстаў і яны абодва вышлі з касьцёла.

— Аб чым ты так шчыра маліўся?— запытаўся Джузэппе.

— Справа ёсьць: пажывіцца можна. Сёньня ноччу... Справа небясьпечная. Вось я і маліўся, каб Мадонна дапамагла. Згодзен за гэта паставіць хоць 10 сьвечак. Але яна раз ашукала мяне, каб ёй гэта бокам вылезла. Астатні раз зварачаюся да яе. Калі і цяпер не дапаможа, выберу сабе другога сьвятога **).

— Якая справа?

— Потым скажу, а пакуль што ідзі дамоў і чакай мяне. Я прыду праз гадзіны тры...

* *
*

Джузэппе пайшоў дамоў.

Тая ўзьбярэжная, дзе днём сядзеў Джузэппе, зьяўляецца „параднаю“. Да яе падыходзяць толькі „чыстыя“ судны: пасажырскія параходы, гандолы, а на беразе прагульваецца толькі чыстая публіка.

Далей-жа ідзе „чорны“ ўваход, порт, куды прывозіцца вугаль, селядцы, нафта,

---

*) Гэты цуд у нас робіцца ў школах. Калі ўзяць такую самую пасудзіну без паветра і патрымаць яе ў руцэ, тады ад аднэй гэтай цеплаты вада кіпіць, бо яе не прыціскае паветра

*) Ліра—38 кап.

**) Такія зьявішчы ў Італіі зусім ня дзіва. Бывалі выпадкі, калі нават каралі сьвятых за тое, што яны не дапамагалі, напр., у 1858 г. садзілі іх у турмы.

скуры, жалеза і розныя іншыя тавары, якія ідуць толькі на карысьць, а не на аздобу Нэаполя. Там ужо няма тэй прыгожасьці. Узьбярэжная завалена бочкамі, бярвеньнямі, скрынямі, мяхамі і рознымі іншымі „бруднымі“ рэчамі.

Заместа беласьнежных палацаў, стаяць брудныя сьвірны, майстэрні. У самым канцы гэтага порту пад перавернутай старой рыбацкай лодкай і знаходзіўся „дом“ Джузэппе.

Трэба толькі ведаць, што ў гэтых краёх, калі хочуць сказаць аб якім-небудзь чалавеку, што ён бяднейшы за жабрака, дык кажуць: „ён такі бедны, што нават ня мае на што купіць сабе віна“.

Але трэба сказаць, што з усіх іх толькі пяць чалавек мелі тое-сёе, рэшта-ж, у тым ліку дарослыя, нічога ня мелі...

— Дзядзя, можа хочаце?—зьвярнуліся да яго хлопцы, прапануючы кукурузную шышку.



— Дзякую...—буркнуў той і борзьдзенька схапіў пачастунак.

Калі Джузэппе прышоў, там ужо сабралася чалавек з дзесяць „кватарантаў“. Большасьць з іх былі такія самыя дзеці, як і Джузэппе, двое мелі гадоў так 18-20, а адзін ужо зусім сталы мужчына гадоў пад 40 і жанчына гадоў 30.

Пачалі дзяліцца ўражаньнямі, хто як правёў дзень, хто што зарабіў.

Мне прыежджыя далі цэлых поўліры за тое, што я пальцамі на губах сыграў ім сэрэнаду*),—хваліўся адзін хлапец.

— А я злавіў у вадзе 20 чэнтызімаў!—дадаў другі хлопчык.

— І я таксама!—сказаў і Джузэппе.

Дарослы дзядзька сядзеў абапершыся локцямі аб калені, глядзеў проста перад сабой, здаецца, нічога ня чуў і ня бачыў. Жанчына ляжала на зямлі, абгарнуўшы галаву хусткай і не варушылася, хоць і відаць было, што яна ня спала.

Дзеці пачалі вячэраць. Павыцягвалі свае нязьменныя макароны, рыбы, каштаны, вараны боб, кукурузу. А два юнакі раздабыліся нават бутэлькай віна.

— Дзякую...—буркнуў той і борздзенька схапіў пачастунак.

Заварушылася жанчына і нібы застагнала. Джузэппе падпоўз да яе, дакрануўся да пляча і мякка сказаў:

— Цётанька, можа хочаце закусіць з намі?

Жанчына прыўстала, некалькі хвілін пазірала, быццам нічога не разумеючы, а потым прамовіла:

— Дзякую, дзеткі!..—і сама заплакала.

Яна сёньня яшчэ нічога ня ела...

Мора пяшчотна плюхалася да іх ног. Зоркі мігцеліся і скакалі ў вадзе. Рог месяца з цікавасьцю заглядаў пад лодку. Ніці электрычных ліхтароў дугою атачалі затоку. Далей, у моры, як нейкае вока, вызначыўся востраў Капры.

Вось праехалі міма дзьве гандолы, упрыгожаныя разнакаляровымі папяровымі ліхтарыкамі. Дзіўная пяшчотная песьня палілася адтуль і паплыла па моры ўва ўсё бакі і да зорак, і да віллаў, і пад лодку...

Ну, хто пасьля гэтага скажа, што ў Нэаполі дрэнна жывецца?..

*(Працяг будзе)*

**Янка Маўр.**

---

*) Сэрэнада—італьянскі мілагучны сьпеў або музыка, якую выконваюць увечары на гітары.



# Хочаш міру—рыхтуйся к вайне.

Нешта здарылася ў апошні час, калі ўсе газэты ўсяго сьвету пішуць, што ў паветры запахла вайной.

Мы тут пастараемся расказаць вам аб усім па магчымасьці коратка і цікава.

### Хто ва ўсім вінаваты?

Ва ўсіх на языку Ангельшчына. Гэта яна падняла такую суматоху ва ўсім сьвеце. Яна загадала бандыту Чжан-Цзоліну зрабіць напад на наша прадстаўніцтва ў Пэкіне. Яна зрабіла напад на памяшканьне нашага гандлёвага таварыства Аркос, яна спыніла зносіны з Савецкай краінай, яна падганяе на вайну з СССР усіх, каго толькі можа. Пашто гэта ёй патрэбна?

### Што робіцца ў самой Ангельшчыне?

Ці памятаеце вы забастоўку ангельскіх гарнякоў у маі 1926 г.? Ангельскія капіталістыя захацелі зьменшыць зарботную плату гарнякам. Гарнякі на гэта адказалі забастоўкай. За гарнякамі забаставалі іншыя рабочыя Ангельшчыны. Ва ўсеагульнай забастоўцы прымала ўдзел каля 5 мільёнаў рабочых. Але ўсеагульная забастоўка цягнулася нядоўга. Разбэшчаныя буржуазіяй „правадыры" профсаюзаў (паангельску—трэд'юніонаў) спужаліся, што з забастоўкі пачнецца рэволюцыя. А рабочыя, акрамя пэнсіі, захочуць адабраць яшчэ фабрыкі і заводы капіталістых. Здраднікі пасьпяшылі сарваць забастоўку. Усеагульная забастоўка спынілася, але гарнякі не здаліся, яны працягвалі баставаць. Рабочыя іншых краін, а ў асаблівасьці рабочыя СССР, грашыма падтрымлівалі зморaных голадам гарнякоў. Шэсьць месяцаў баставалі гарнякі, зморaныя голадам, пакінутыя без дапамогі генэральнага савету трэдюніонаў, у якім заселі соцыялістыя-здраднікі. Гарнякі былі пераможаны. Ангельскія капіталістыя перамаглі. Але гэта перамога ім дорага абышлася. Яна каштавала Ангельшчыне 6 мільярдаў рублёў. Буржуазія ўгледзела, якую сілу і вытрымку можа праявіць рабочая кляса.

### Патрэбны ёжавыя рукавіцы.

Такія рукавіцы знайшліся — завуцца яны білль аб профсаюзах. Білль—гэта паангельску—проект закону. Выдумала гэты білль самая ярая, самая злосная частка




Ангельскія гарматы цэляцца ў мір.



Горнарабочы адказаў забастоўкай.




Агульная забастоўка ўдарыла магутным кулаком перад носам ангельскіх банкіраў.

буржуазіі — капіталістыя. Сэнс гэтага більля выяўляецца ў тым, што ён прыраўнівае профсаюз да амаль нелегальнай, незаконнай організацыі. Стачка па гэтаму закону разглядаецца, як паход супроць дзяржавы. Буржуазія гэтым законам хоча забясьпечыць сябе ў тылу на выпадак вайны ад націску рабочых. Закон гэты ўжо прыняты. Такім чынам, ня ўсё спакойна ў ангельскай краіне. Ангельскія капіталістыя перайшлі ў напад на сваю рабочую клясу.

Аб Ангельшчыне кажуць:

**Ангельшчына—царыца мораў.**

Пра Ангельшчыну кажуць:

**Ангельшчына—марскі рабаўнік.**

Сама Ангельшчына—невялікая краіна, але яна ўладае колёніямі, якія ў дзесяткі разоў большыя за самую Ангельшчыну. Ангельшчына мае ўплыў на аграмадныя па пра́сторы краіны. У гэтых краінах таксама неспакойна. Больш усяго ў Кітаі. Кітайскі народ паўстаў супроць уплыву замежцаў, якія адбіраюць у яго ўсе багацьці ў свае заграбушчыя лапы, якія не даюць дыхаць кітайскаму рабочаму і селяніну. Кітай паўстаў супроць замежных сваіх капіталістых, якіх замежныя капіталістыя падтрымліваюць, каб замацаваць сваю ўладу ў Кітаі.

Рэволюцыя ў Кітаі адбірае ў Ангельшчыны рынак, куды збывае яна свае тавары.

Было ў Пэкіне ў пасольскім квартале наша савецкае пасольства. А трэба вам ведаць, калі хто-небудзь з кітайцаў захоча ня толькі дакрануцца, але коса паглядзець на замежнае пасольства, дык яго так узгрэюць, што ён галаву згубіць. Загадваў-жа вартай усяго пасольскага кварталу старшыня—адзін з паслоў, галяндзкі, па прозьвішчу Удэндэйк.

**Выпадак у Пэкіне.**

Чжанцзолінаўскія салдаты абкружылі нашае прадстаўніцтва, зьбівалі супрацоўнікаў і тры дні вывозілі маемасьць з памяшканьня прадстаўніцтва. І гэта-ж не на вялікай дарозе, а ў горадзе, у сталіцы Кітаю. Ангельшчына загадала Чжан-Цзо-ліну зрабіць напад, і спэцыялісты па рабаўніцтву кінуўся выканаць загад, а Удэндэйк, бязумоўна, ня стаў перашкаджаць гэтаму.

**Што звычайна бывае пасьля гэтага.**

Пасьля гэтага бывае вайна. Памяшканьне прадстаўніцтва экстэрыторыяльна. Гэта значыць, што памяшканьне прадстаўніцтва—гэта маленькі кавалачак краіны той дзяржавы, чыё прадстаўніцтва. Рабіць напад на прадстаўніцтва—значыць прымусіць другую дзяржаву абвясьціць вайну. Ангельшчына хацела, каб мы абвясьцілі вайну Чжан-Цзо-ліну. Вайна аслабіць СССР, ня дасьць яму займацца будаўніцтвам.

Гэтага Ангельшчына толькі і хоча.

**Але мы гэтага ня хочам.**

На провокацыю СССР ня зловіш. Саўнарком СССР адклікаў назад свайго прадстаўніка. З бандытамі мы справы мець ня будзем. І ваяваць, як ня хочацца гэтага, таксама ня будзем.

**Выпадак на вуліцы Мургэт.**

У Лёндоне на вуліцы Мургэт, 49 стаіць Савецкі Дом (Совет Гаўз). У гэтым доме знаходзіцца Аркос—Акцыянэрнае Комэрцыйнае Таварыства, якое займаецца гандлем з Ангельшчынай.



,,Правадыры" і Макданальд—кур'еры буржуяў.



Яжовыя рукавіцы знайшліся!



Ангельшчына--гаспадар над распластаным целам Кітаю.

У Лёндоне-ж, на вуліцы... ня ведаем які нумар, жыве Скотланд-Ярд. Гэта—тайная паліцыя Ангельшчыны. Загадвае ёю Джойнсон-Хікс—ангельскі міністар.

У Савецкім Доме госьці. Дзіўныя госьці—яны ўламваюцца ў пакоі, ломяць

**Адно з двух: альбо ён там, альбо яго там няма.**

Такі неразумны адказ паказвае, што ня гэтага ім трэба было; яны і тут, таксама як і ў Пэкіне, шукалі матар'ялаў, каб абвінаваціць СССР у варажасьці да



Мы ня хочам вайны, мы заняты сваёю справаю.

несгараемыя шафы, б'юць супрацоўнікаў, фотаграфуюць тайныя паперы. Гэта бандыты з вялікай дарогі? Не. Гэта госьці з Скотланд-Ярду. Яны вывелі ўсіх супрацоўнікаў з пакояў і пачалі вобыск. Начальнік паліцыі заявіў, што яны шукаюць дакумант, які ўкралі з вайсковага міністэрства Ангельшчыны. Калі-ж спыталі Хікса, ці ведае ён, робячы такі важны крок супроць цэлае дзяржавы, ці ведае ён, ці там гэты дакумант, ён адказаў:

Ангельшчыны і справацыраваць на вайну. Нічога яны, бязумоўна, не знайшлі. Але знайсьці трэба было, нездарма яны вывелі ўсіх супрацоўнікаў з пакою, дзе гаспадарылі. Ім удалося сфабрыкаваць некалькі фальшывых паперак, якімі яны пакрылі конфуз пасьля няўдалага налёту.

**Лорды парашылі парваць з Савецкай краінай.**

Якой-бы ні было цаной, цаной падлогу, цаной налёту, цаной провокацыі—гэта ім удалося. Выклікаць-жа на вайну—не ўда-



Кітай паўстаў.



Ангельшчына цкуе сваю сабаку.



Бандыты ідуць на „працу“.

лося. Але вайной пахне, і Ангельшчына і ўсе буржуазныя краіны шпарка ўзброй- ваюцца. Чуць не штодзенна вынаходзяць усё новыя і новыя спосабы зьнішчэньня людзей. Робіцца гэта не для забавы, колькі-б не запэўнівалі жоўтыя здраднікі, што добрая буржуазія ваяваць ня хоча. Мы ведаем, што яна рыхтуецца да гэтага. Будзем гатовы і мы.

### Чаго хоча Ангельшчына?

Ну, добра, вайна; зачым-жа Ангельшчыне патрэбна вайна? А вось зачым: Ангельшчына вырабляе вельмі многа ўсякага тавару. Яго куды-небудзь трэба збыць. Яна-ж сама на сваёй маленькай высьпе ня можа зьесьці ўсяго, што нарыхтавала. Калі ёй няма куды прадаць, то ёй няма зачым вырабляць столькі; фабрыкі і заводы будуць стаяць. Сама буржуазія застаецца бяз прыбытку, значыць, самая галоўная задача—знайсьці месца, куды прадаць. Знайсьці рынак, а знашоўшы, не выпускаць. Аграмадны рынак Ангельшчыны—Кітай—адыходзіць ад яе, СССР не дае сябе апутаць, каб стаць колёніяй Ангельшчыны, значыць, трэба ваяваць супроць паўстаючага Кітаю, значыць, трэба ваяваць супроць пролетарскае рэспублікі, якая ня толькі ня хоча стаць рынкам сама, але сваім прыкладам падбівае другія рынкі на паўстаньне.

### Чыймі рукамі будзе ваяваць Ангельшчына?

Чужымі. У Кітаі—рукамі Чжан-Цзоліна. З Саветамі—рукамі, нагамі і целам Польшчы, Румыніі, Латвіі, Эстоніі і інш. сумежных дзяржаў. Марскі рабаўнік будзе сачыць, каб яго падначаленыя біліся добра. Нездарма ён іх забясьпечвае грашыма, аружжам і амуніцыяй.

### Што мы будзем рабіць?

Перш за ўсё будаваць сваю дзяржаву. Мы ня хочам вайны, мы заняты справаю. Чым мацней мы будуем соцыялістычную дзяржаву, тым хутчэй надыдзе сусьветная рэволюцыя. Гэтага ня хоча сусьветная буржуазія. Яна хоча нас раздавіць, але гэта ёй ня ўдасца.

### Мы будзем гатовы к вайне.

Мы будзем гатовы к вайне! Мы будзем умацоўваць сваю Чырвоную армію, мы будзем агітаваць сярод замежных рабочых, каб яны перашкаджалі вайне, кожны з нас—дарослых і дзяцей—будзе заўсёды гатоў стаць на абарону рэволюцыі.

### Што павінны рабіць піонэры?

Дзеці СССР павінны ведаць санітарную справу, павінны ўмець дапамагчы параненым, хвораму чырвонаармейцу. Трэба організоўваць санітарныя гурткі і вучыцца.

Кожны піонэр—будучы чырвонаармеец, павінен прысьці ў армію добрым стралком, з меткім вокам і цьвёрдай рукой. Вучэцеся страляць у стралковых гуртках.

Будучая вайна—газавая вайна. Газ—страшэнная рэч, але

**ня страшны газ, калі ёсьць працівагаз.**

Вучэцеся рабіць працівагазы і надзяваць іх. Вучэцеся страляць, перавязваць раны.

Дзеля таго, каб быў мір,—трэба быць падрыхтаваным да вайны.

Б. Віркінс.


Цьвёрдалобы бульдог жрэ ангельска-савецкі дагавор.


Стары спэкулянт—Ангельшчына дае бандытам грошы.


Буржуазія перашкаджае нам спакойна працаваць. Будзем напагатове!

# Як навука аб надвор'і выратавала людзей ад сьмерці.

### Першая газавая атака.

*З усіх сродкаў барацьбы, якія прымяняліся ў мінуўшай міравой вайне, асабліва згубныя ядавітыя газы.*

*У нямецкім зборніку „Тэхніка ў міравой вайне“ зьмешчаны надзвычайна цікавыя веды аб першай газавай атацы.*

У 1915 годзе галоўным камандаваньнем было вырашана прыступіць на фронце да выпуску газу з балонаў. Дзеля правядзеньня гэтага ў жыцьцё была рэквізавана палова ліку баваўняных балонаў, якія меліся ў прамысловых прадпрыемствах,—усяго 6.000 штук. Акрамя гэтага ў хуткім часе было загатоўлена яшчэ 24.000 новых балонаў. Балоны былі злучаны ў батарэі, па 20 штук і больш, і пастаўлены ў акопах... Увечары 22 красавіка 1915 г. ў першы раз быў дадзены загад аб выпуску газаў. Уздоўж нямецкіх пазыцый на працягу 6 клм. утварылася цяжкае, жоўта-белае, непразрыстае воблака, спачатку вышынёй ва ўзрост чалавека, а потым некалькі вышэй і пачало плысьці па ветру. „Выпуск газу працягваўся толькі 5 хвілін“, і ўсё-ж такі, па словах аўтара, „посьпех быў вялікі, уражаньне было вялізарнае“, таму што „вораг, здарылася, ня быў падрыхтаваны да газавай абароны“.

Уражаньне, сапраўды, было вялізарнае. Вось як апісвае гэтую-ж атаку ачавідзец з боку саюзьнікаў.

„Спачатку зьдзіўленьне, потым жах і, нарэшце, паніка ахапіла войска, калі першыя воблакі дыму абвалаклі ўсю мясцовасьць і прымусілі людзей, задыхаючыся, біцца ў агоніі. Тыя, хто мог рухацца, уцякалі, імкнучыся дарма апярэдзіць воблакі хлёру, якія бязьлітасна гналіся за імі“.

А вось апісаньне гэтай атакі другога ачавідца (ангельца):

„Мы ня верылі сваім вачам, мы не маглі верыць таму, што пачулі ад уцекачоў; мы прыпісвалі іх словы расстроенаму выбражэньню: зеленавата-шэрае воблака, спусьціўшыся на іх, рабілася жоўтым у памеры свайго распаўсюджваньня, і абпаляла на сваім шляху ўсё, да чаго датыкалася, прымушаючы расьліны гінуць. Ніякі, самы адважны, чалавек ня мог устаяць перад гэткай небясьпекай. Сярод нас, хістаючыся, зьявіліся францускія салдаты, кашляючы, цяжка дыхаючы, з тварам цёмна-багараватага колеру, а ззаду іх, у атручаных газамі траншэях, засталіся, як мы даведаліся, соткі ўміраючых таварышоў“.

За першай газавай атакай пайшлі другія. Акрамя хлёру, пачалі ўводзіць іншыя, больш ядавітыя газы; тэхніка выпуску гэтых газаў пачала ўдасканальвацца і газавыя атакі сталі адным з баявых сродкаў.

### Абарона ад газавых атак.

Вялікі „посьпех“ першых газавых атак тлумачыцца тым, што ніякай абароны ад іх ня было—хто трапляў у ядавітае воблака, нямінуча ім атручваўся. Але-ж сродкі абароны ў тыя часы ўжо былі вядомы, імі карысталіся ў некаторых хэмічных вытворчасьцях: гэта асаблівай пабудовы маскі, гэтак званыя працівагазы.

Гэткімі працівагазамі ваюючыя краіны паступова забясьпечылі ўсё войска. Але-ж, тысячныя страты ад газавых атак былі не выпадковасьцю. Напр., раньняй вясной 1916 г. на расійскім фронце адзін полк страціў больш паловы свайго складу.



Газавая атака.

Выявілася, што мала мець працівагазы, трэба быць падрыхтаваным сустрэць газ. А полк яго не чакаў і быў насьцігнуты ўрасплох, а „газ“ не чакае — некалькі ўздыхаў і—сьмерць.

Вось адзін з прыкладаў, які паказвае, наколькі неабходна быць падрыхтаваным да сустрэчы ядавітага воблака.

„У ноч на 29-га жніўня 1916 г. на дзьве расійскія дывізіі, каля мястэчка Крэва, Віленскае губ., была праведзена немцамі газавая атака. Адна дывізія чакала гэтую атаку, таму што яна была папярэджана з вечару аб мажлівасьці газавага нападу, другая ня была папярэджана і атакі не чакала. У выніку—першая дывізія страціла 16% ахопленых газавым паветрам, а другая дывізія—75%—амаль у 5 разоў болей.

Гэткім чынам, папярэджаньне газавай атакі ёсьць ня менш паважны сродак аховы, чым працівагаз.

**Прараканьне газавых атак.**

Прараканьне мажлівасьці газавай атакі знаходзіцца ў сувязі ад прараканьня пагоды. Газавае воблака пераносіцца да ворага ветрам. Дзеля пасьпяховага правядзеньня атакі вецер павінен быць трывалы і ня моцны і дзьмуць проста на ворага. Моцны вецер разрадзіць воблака і паменшыць яго ядавітасьць; нятрывалы, акрамя таго, можа загнаць газ у свае-ж акопы. Адсюль зразумела, што прадбачыць атаку, значыць прадбачыць, перш за ўсё, прыемны дзеля яе вецер.

Прараканьне надвор'я, у тым ліку і ветру, абгрунтована ў навуцы аб надвор'і — мэтэаролёгіі — і робіцца на падставе назіраньня ў розных частках зямной паверхні на гэтак званых мэтэаролёгічных станцыях.

**Мэтэаролёгічная сетка на вайне.**

У часе сусьветнай вайны на расійскім фронце ў вялікім ліку былі організаваны мэтэаролёгічныя станцыі розных тыпаў.

На перадавых позыцыях на першай лініі акопаў, „пад носам“ у немцаў, на адлегласьці 1-2 клм. адзін ад аднаго, знаходзіліся пункты, дзе асобнымі назіральнікамі рабіліся шточасовыя назіраньні над ветрам.

Галоўная прыкмета напрамку ветру вызначаецца адхіленьнем шоўкавай стужачкі (вымпелу), прывязанай да кія.

Па тыпу акопных, былі зроблены і палкавыя пункты, дзе дадаткова праводзіліся назіраньн над тэмпэратурай і вільгацьцю паветра.

А пэўны матар'ял дзеля прараканьня пагоды па мясцовых прыкметах давалі дывізіённыя мэтэоролёгічныя станцыі. Дывізіённыя станцыі знаходзіліся на адлегласьці 2—4 клм. ад ворага.



На газ ёсьць працівагаз.

Веды з акопных, палкавых і дывізіённых пунктаў па тэлефону даваліся дывізійнаму мэтэоролёгу, які ў кожны момант мог ведаць стан надвор'я ў раёне раскватараваньня дывізіі (прыклад, ад 20 да 25 клм. на фронце). Наносячы асобнымі значкамі (вецер—сьцяжкі на шпільках) на карту мясцовасьці, дывізійны мэтэоролёг мог сачыць за зьменамі надвор'я, гэта дапамагала прадбачыць надвор'е на будучае. Але-ж, прараканьне пагоды па мясцовых прыкметах—справа ня зусім дасканалая. Яна напэўна лепш падыходзіць пры наліччы карт надвор'я на вялікай прасторы, напр., па ўсёй Эўропе.

У Ленінградзе шмат гадоў існуе галоўная фізычная обсэрваторыя, аднэй з галін яе працы зьяўляецца складаньне гэткіх карт надвор'я (так званых сінапцічных карт) на падставе ведаў, якія атрымоўваюцца па тэлеграфу двойчы ў дзень з розных месц СССР і з-за мяжы. Гэтыя вось карты даюць надзвычайна па-

важныя веды для прараканьня надвор‘я. Карты надвор‘я Галоўная Фізычная Обсэрваторыя штодзенна перадавала дывізійным мэтэаролёгам.

Уладаючы картай надвор‘я і вынікамі мясцовых назіраньняў, дывізійны мэтэоролёг мог, урэшце, адказаць на пытаньне: ці мажліва ў бліжэйшыя часы з боку ворага газавая атака, ці наадварот. Калі ён казаў „мажліва“—уся дывізія (да 25.000 чалавек) павінна быць на чаку, і, „немажліва“—жыцьцё дывізіі набывае звычайны характар. Чым менш папярэджваньняў, тым нормальней жыцьцё дывізіі, тым продукцыйней яе баявая работа. Дзякуючы гэтаму, аснаўная задача мэтэоролёга не рабіць пагражаючых папярэджваньняў без неабходнасьці. Практыка паказала, што ў самыя газаапасныя летнія месяцы лік папярэджваньняў можа не перавышаць 5—6 у месяц.

### Значэньне навукі ў будучых войнах.

Паступовае паляпшэньне працівагазавай абароны, у тым ліку мэтэоролёгічных прараканьняў, к канцу сусьветнай вайны зрабіла выпуск хвалямі атручваючага газу бескарысным, таму што ў выніку меліся звычайна адзінкі атручаных з ліку атакуемых.



У будучых войнах будуць, бязумоўна, уведзены новыя баявыя сродкі, атручваючыя газы ня будуць аддадзены на волю прыхотлівага ветру, а іх будуць перакідваць пад кіраўніцтвам чалавека газомэтамі, паветраным флётам і г. д. Мэтэоролёгічныя папярэджаньні тады мала памогуць, але чалавечая галава вынайдзе новыя сродкі аховы сябе ад зброі сьмерці.

**А. Калакольнікаў.**

**Усім...**

**Усім...**

**Усім...**

**Слухайце апошнія навіны навукі і тэхнікі!**



# У ХВАЁВЫМ ЛЕСЕ.

*(Піонэрскі лягер Акцябрскага раёну ў Пятроўшчыне).*



Хваёвы лес на ўзгор'і не дазваляе думаць аб прысутнасьці там піонэрскага лягеру, калі едзеш у Пятроўшчыну па дарозе з Менску. Трэба-ж толькі пад'ехаць бліжэй, як пачуеш гукі горну, вясёлыя дзіцячыя выклікі і сьпевы. І калі ўзьбярэшся на ўзгор'е, убачыш дзяцей у піонэрскай вопратцы і чырвоных хусьцінках.

У сярэдзіне паміж уваходам у лягер і памяшканьнем Курасоўшчынскай школы—вялікая брэзэнтавая палатка і мачта. На мачце—чырвоны сьцяг, каля яе дзяжурны піонэр.

Навокал вялікая расчышчаная пляцоўка, на якой бегаюць піонэры, гуляюць у мяч, эстафэту і інш.



### Крыху „гісторыі".

Піонэрскі лягер у Акцябрскім раёне не пяршыня. Гэта ўжо трэці па ліку выхад у лягеры. Першыя два лягеры ўжо добра сябе зарэкомэндавалі. І таму з боку бацькоў выхаду піонэраў сёлета ў лягеры ніякіх перашкод ня было. Наадварот, Райком Комсамолу штодзенна вытрымліваў „штурмы" тых бацькоў, дзеці якіх не папалі ў першую чаргу ў лягер. Мне прышлося наглядаць наступны цікавы выпадак.

Калі ў Райкоме ўжо распрацоўвалі і зацьвярджалі плян працы лягеру, раптам усёй працы перашкодзіла зьяўленьне двух бацькоў.

— Чаму ў першую чаргу не пасылаюць нашага сына—піонэра,—абодвы заявілі яны,—ён таксама піонэр добры, як і другія. А вось, што ён хварэў узімку і ня мог давeдваць атраду ў гэтым ён не вінаваты...

Сябрам Райбюро ЮП доўга прышлося тлумачыць бацьком, што ў першую чаргу іх сына ніяк нельга паслаць.

— Ня могуць-жа ўсе разам выехаць. Не хапае памяшканьня...

Але бацькі так і пашлі нездаволеныя. Нарэшце, піонэр усё-ж такі паехаў у першую чаргу.

Але ўсё гэта дробязь. Райбюро ЮП прышлося вырашаць і больш вялікія пытаньні па выезду піонэраў у лягеры.

Самае галоўнае было—грашовае пытаньне. Тут ужо „штурмаваў“ Райком КСМ сумесна з Райбюро ЮП.

„Штурмавалі“ Райком партыі, штурмавалі мясцкомы чыгункі, „штурмавалі“ бацькоў...

Нарэшце, „выштурмавалі“ крыху грошай... Дарпрофсож даў 100 руб., учпрафсож—100 р., бацькі далі па 2 рублі, з мясцкомаў сабралі пару соцен... Наогул было каля 450 р.

Але гэта далёка недастаткова для піонэрскага лягеру ў 60 асоб. Каб папоўніць лягерныя сродкі, арганізавалі два платных вечары, 2 лётарэі, пусьцілі падпісны ліст.

І з гэтымі сродкамі выехалі.

І вось цяпер—бачу перад сабою гэты лягер.

**Сонца, паветра, вада.**

Лягер ня будзе лягерам, калі ён ня будзе прытрымлівацца строгага распарадку дня. Гэтай думкі трымаецца і рада лягеру. Усё жыцьцё ідзе ў строгім парадку.

Лягер у цэнтры сваёй працы ставіць самай галоўнай мэтай—шырока выкарыстаць для аздараўленьня піонэраў *сонца, ваду і паветра.* І таму ў распарадку лягеру самае цэнтральнае месца і ўвагу займае гэтая мэта.

А сёмай гадзіне падымаюцца. Зараз-жа фізкультура і купаньне. Потым гарбата, прыбраньне памяшканьня, праца па лягеры...

У адзінаццаць гадзін сонечныя ванны і зноў купаньне.

А ўвечары, калі трэба класьціся спаць, а дзевятай гадзіне—фізкультура і апошняе купаньне.

Акрамя гэтага ёсьць абавязковая пастанова рады аб тым, каб піонэры хадзілі ў трусіках або шараварах, і для хлапцоў абавязкова бяз верхняе кашулі. Доўгія парткі і спадніцы—„катэгарычна“ забаронены.

Два разы ў тыдзень у лягер прыяжджае лекар, які робіць агляд піонэраў, гаворыць з кіраўніком аб тым, як весьці фізкультуру і інш.

**Аб дысцыпліне і п‘яным настаўніку.**

Што-што ў лягеры трэба, а дысцыпліна больш за ўсё патрэбна. І таму з першых-жа дзён у лягеры ўсталявалася строгая дысцыпліна. За малейшы ўчынак рада ўхваліла да парушаўшых дысцыпліну прымяняць „вышэйшую меру кары“—высылку з лягеру. Калі піонэры толькі што прышлі ў лягер за тры першыя дні было тры парушэньні дысцыпліны. Рада лягеру ўхваліла да „злачынцаў“ прымяніць „вышэйшую меру кары“.



У адказ піонэры папрасілі выбачэньня на сходзе лягеру і справа закончылася сьлязьмі. А „вышэйшая мера“ была пакінута ўмоўнай. І з гэтага часу ніякіх выпадкаў недысцыплінаванасьці ня было.

Ёсьць у лягеры вельмі добрае правіла. Кожны піонэр павінен выконваць усё, што скажа павадыр. І калі нават ён лічыць, што павадыр ня праў, павінен усё выканаць, а на сходзе лягеру ці на яго радзе ўзьняць пытаньне аб тым, што павадыр паступіў няправільна. Гэта і трымае ў лягеры добрую дысцыпліну.

Быў выпадак, калі піонэры прымусілі нават падначаліцца сваёй дысцыпліне нават і дарослага.

Настаўнік Курасоўшчынскай школы, напіўшыся гарэлкі, у п'яным выглядзе зьявіўся ў лягер.

— Эй, піонэры! Зараз-жа забірайце свае цацкі, інакш...

Піонэры свае цацкі ня ўбралі, а п'яны настаўнік разразіўся „сэрыяй“ трохпавярховага... Старэйшыя піонэры толькі пасьмяяліся, а малодшыя, гавораць, так напужаліся, што ўсю ноч ня спалі.

На другі дзень, калі піонэры вячэралі, у дзьверы нехта пастукаў, усе ўбачылі знаёмага настаўніка.

— Таварышы - піонэры, выбачайце... Больш ня буду. З п'янага вока аб нашай зьмене забыўся... Пакрыўдзіў... Прабачайце...

Піонэры агітнулі за зьмену, ну, і потым... прабачылі.

### Рыхтуем новы атрад.

Шмат увагі аддае лягер працы з неорганізаванымі сялянскімі дзяцьмі. Раней думалі працаваць наогул сярод сялянскага насельніцтва, а потым парашылі весьці ўсю працу толькі сярод дзяцей.

Кожны вечар, калі канчаюцца палявыя працы, сялянскія дзеці ідуць да піонэраў. Гуляюць з імі, присутнічаюць на зьвеньневых сходах, слухаюць гутаркі.

Ад 6 да 8 гадзін увечары піонэры спэцыяльна аддаюць увагу толькі сялянскай дзетвары. Гэтыя гадзіны аддаюцца спэцыяльна для падрыхтоўкі новага піонэрскага атраду. Тут тлумачацца ім законы і звычаі юных піонэраў, праводзяцца гутаркі аб задачах піонэр-організацыі.



— Рыхтуем новы атрад,—кажуць піонэры.

Ї ён будзё!

### Гаспадары, культурнікі, трудавікі...

Самая адказная праца ляжыць на гаспадарчым зьвяне. Тут занадта многа рознай вазьні. Трэба заўсёды падабраць такое „меню“, каб яно спадабалася ўсім піонэрам, трэба так разьмеркаваць 15 літраў малака, каб яго хапіла на ўсіх піонэраў, трэба прыглядзець на кухні, каб кухарка дабрасумленна выконвала свае абавязкі...

Ї, акрамя гэтага, мей заўсёды справу з грашыма, правадзі рэжым экономіі і інш. Павінны быць і авечкі цэлыя і воўкі сытыя (разумей: продукты цэлыя і піонэры не галодныя).

Адно слова—справа адказная.

Але культурнае зьвяно таксама лічыць сваю справу ня менш адказнай.

Наладзіць чытальню, выпісаць газэты і часопісі, кніжкі, падрыхтаваць нумар насьценнай газэты, правесьці колектыўныя чыткі—таксама справа. Ї „культурнікі“ з гордасьцю бездакорна яе выконваюць.

А ці мала працы трудавому зьвяну? Здаецца, таксама шмат. Як толькі трэба прыбраць памяшканьне, расчысьціць спортыўную пляцоўку, скалаціць ложкі і шмат іншага, усюды завуць „трудавікоў“. Ї „трудавікі“ бадай што цэлы дзень, як і другія, працуюць без адпачынку.

*Кожнае зьвяно працуе ня менш за другое, кожнае зьвяно ня менш за другіх адказна за сваю справу.*

Для вучоту сваёй працы зьвеньні вядуць дзеньнікі. Ї калі ў сваім дзеньніку культзьвяно піша аб цяжкасьцях організацыі чытальні, дык у дзеньніку гаспадарчага зьвяна можна прачытаць: „Адпушчана на абед 10 фунтаў мяса, 10 літраў малака“.

* * *

Едзеш у Менск і адчуваеш, што ў гэтым лесе вядзецца вялікая праца па выхоўваньню грамадзян рэспублікі Саветаў.

**Мік. Таўбэ.**

# ЯК МЫ ЧЫТАЕМ.

## Піонэрскія бібліотэкі.

У нас бывае часта так, што вясковы хлапец канчае школу і забываецца праз некаторы час грамаце. Прычына тая, што па выхадзе са школы закідаецца кніга—яна ня чытаецца, бо звычайна яе ў вёсцы няма. Вось тут выступае ў паважную ролю піонэрская бібліотэка пры атрадзе ці форпосьце як у горадзе, так і ў вёсцы. Але калі мы паглядзім на нашы піонэрскія бібліотэкі, дык яны не адпавядаюць свайму прызначэньню. Ці яны дрэнна працуюць, вынікам чаго бывае, што піонэры чытаюць непатрэбныя кніжкі. Ці мала кніжок, што нездавальняе піонэраў, або такія кніжкі, якія часта не пад сілу і дарослым.

У піонэрскім жыцьці і ў дзяцей неорганізаваных кніга павінна займаць пачэснае месца, бо яна другі настаўнік і пасьля школы на ёй шмат можна чаму навучыцца і нават пазабавіцца. Таму атрадам трэба на бібліотэкі зьвярнуць увагу і ажывіць іх працу. Мерапрыемствы тут можна правесьці такія:

Пераглядзець бібліотэку, прыцягнуўшы настаўніка або комсамольца ці партыйца і непатрэбныя кніжкі выкінуць.

Распрацаваць заданьне, як набыць больш кніжок у бібліотэку і наогул аб працы бібліотэкі.

Прыцягнуць настаўніка і з яго дапамогай кіраваць і ўказваць піонэрам, што чытаць.

У раёнах між атрадамі можна мяняцца кніжкамі і за гэта павінна ўзяцца райбюро ЮП.

Калі бібліотэка ёсьць добрая, але не працуе, дык трэба пераабраць бібліотэкара і даручыць гэту працу комсамольцу-піонэру.

Я. Г.

---

## Дазвольце ўзяць кніжку дахаты.

*(М. Любань).*

У нашай школе ёсьць бібліотэка і, трэба сказаць, працуе добра. Сьпярша ёю загадваў настаўнік, а цяпер піонэр. Настаўнікі і цяпер кіруюць, дапамагаюць і раяць, якія трэба чытаць кніжкі. Мы бібліотэкай задаволены, навучымся, як працаваць у бібліотэцы і набяромся ведаў. Толькі трэба набыць больш кніжок—гэта адно, і другое—трэба зрабіць так, каб давалі чытаць дахаты цяпер, калі няма заняткаў.

Н. Цыркель.



**Піонэр, чытай разумную кнігу—кніга друг і настаўнік, у ёй знойдзеш усё—яна дасьць веды і забаву і навучыць жыцьцю.**

## Люблю...

Люблю я летняю парою,
Ў траву залёгшы, ў самы жар,—
Глядзець, як вольнаю гурбою
Нясуцца хмары нада мною.—

Пушыста-белы, як-бы такць,
І ўсё бягуць... бягуць... бягуць...
Адна другую наганяюць
Альбо памалу адстаюць...

Люблю я жыта залатое
І жнеяк звонкі галасы,
Люблю зялёны васілёчкі
І сьпевы—жытні галасы!

**В. Шушкевіч.**

## Мы ладзілі сувязь з вёскай.

*(м. Ляды, Аршаншчына).*

На зборы атраду мы парашылі пайсьці ў вёску. 27-га чэрвеня ў 9 гадзін раніцы ўсе піонэры сабраліся каля піонэрскага клюбу, пастроіўшыся ў шэрагі са сваймі сьцягамі і барабанам, і пайшлі ў вёску. Калі мы прышлі ў вёску, дык каля нас сабралася шмат неорганізаваных дзяцей. Мы ў вёсцы крыху адпачылі і правялі гутарку аб піонэратрадзе. Пасьля гутаркі піонэры выступілі з спортам і наладзілі піонэрскі спэктакль. Вясковыя дзеці былі вельмі задаволены і шчыра нам дзякавалі.

**Валодзін.**

## Клюб маем, а аб ім ня дбаем.

*(Ляды, Аршаншчына).*

У м. Ляды ўвесь час ня было піонэрскага клюбу. І вось у апошні час нам далі памяшканьне для клюбу, але клюб працуе дрэнна. Загадчык клюбу нядбайна адносіцца да працы: не прызначае дзяжурных, заўсёды ў клюбе вялікі крык і гвалт, у клюбе гразь, бо ніколі клюб не вымятаецца. Праўленьне клюбу сьпіць і ніякае працы не праводзіць. У клюбе няма ні бібліотэкі, ні газэт.

У піонэрскім клюбе трэба разгарнуць працу.

Бо проста аж сорамна—клюб мы маем, але аб ім і ня дбаем...

**Валодзін.**

## Кніжкі сумуюць па чытачох.

*(Копыль, Случчына).*

У нас у Копылі ёсьць 4 атрады ЮП—2 беларускіх і 2 яўрэйскіх.

На сродкі, складзеныя ўсімі атрадамі, мы пабудавалі гарадзкую піонэрскую бібліотэку, у якой было больш за 500 кніг. Здавалася-б, што тут павінна была-б стаяць праца вельмі добра. А на самай справе мы бачым зусім другое. Раней бібліотэка трохі працавала і ў ёй брала чытаць кнігі больш 140 чалавек як піонэраў, так і неорганізаваных дзяцей. Цяпер-жа гэтая бібліотэка зачынілася і не працуе. Што за прычына прымусіла яе зачыніцца?—ніхто ня ведае, толькі кніжкі ляжаць ды сумуюць па чытачох.

**Гарошак.**



# Наша экскурсія.

Лета. Зьбіраюцца нашы хлопцы і абгаварваюць, як-бы лепей правесьці яго. Судзілі, гаварылі і парашылі зрабіць экскурсію па рэчцы Усысцы, якая пачынаецца з возера каля нашага гарадка і ўпадае ў Вобаль—прыток Заходняй Дзьвіны. Цягнецца яна на 25-30 вёрст.

За дапамогай у выпрацоўцы пляну мы зьвярнуліся да нашых школьных настаўнікаў—Юрыя Антонавіча і Сяргея Сьцяпанавіча.

Агульнымі сіламі плян быў выпрацаваны і маршрут вызначаны. Акрамя таго, мы парашылі правесьці краязнаўчую працу—абсьледаваць усе млыны, якія стаяць на р. Усысцы.

Для большай арганізаванасьці ў падрыхтоўцы да экскурсіі мы вылучылі гаспадарчую камісію і пачалі энэргічна рыхтавацца.

*Нарэшце жаданы дзень настаў.*

Мы адчаліваем. З намі едуць і настаўнікі. Усе радасны, у схвалёваны.

Едзем ужо па Усысцы. Усё далей і далей, малюнкі—адзін лепш другога. На душы радасна. Адчуваем простор палёў. Навокал ціха, толькі высока над галавой сьпявае жаўранак. Сонца пячэ. — Як добра!

— А ну, Колька, зацягні песьню,—просім мы нашага „сьпяваку" Міколку Судніка. Зацягвае.

*Уніз па ма-а-а-тушцы-ы-ы Усысцы-ы.*

Раздаецца песьня, перарobленая намі на свой лад. Плаўна цячэ яна па-над ракой. Вясло ў такт песьні ўдарае аб ваду. Усё шырэй і шырэй разносіцца песьня.

Раптам раздаецца крык з першае лодкі:

— Камень...

І песьня перарываецца.

Перад намі небясьпека—падводныя камені. Плынь нясе на іх. Вось-вось сядзем. Сэрца неяк жудасна і адначасна радасна замірае. Сільны ўдар вяслом—і небясьпека прайшла. Зноў раздаецца перарваная песьня—усё далей і далей і, нарэшце, дзесьці далёка далёка патанае... Ціха. Пяе жаўранак.

Частушкі ідуць адна за другой. Весела. Вясло працуе хутчэй. Але вось падяжджаем к млыну. Плаціна перагараджвае рэчку. Дружным усільлем выцягваем лодку на бераг. Бяромся за барты.

*Ра-а-аз, два, узялі.*

Раздаецца каманда і праз некалькі хвілін напружанасьці лодка ўжо на другім баку плаціны.

А навокал палі, лясы, птушкі. Добра, і так да вечару. А ўвечары вячэра, а потым здаровы сон. Але не заўсёды за-



сьнем адразу. Коля пачне „чудзіць"—тады бывай... Ад сьмеху ня ўседзіш на месцы. Сьмяешся, покуль, нарэшце, змораны, не заснеш моцным сном.

Начавалі ў школах ці ў сялян.

Раніцой. Фью-ю-у-у-у—раздаецца сьвіст „адмірала"—Юрыя Антонавіча.

*Уставай!*

Пачынаецца пацягваньне, пазяханьне. Э-э-эх, як ня хочацца ўставаць. Але, нарэшце, пад паўторны „грозны окрык адмірала"—„уставай"—усе ўскакваюць ды на рэчку купацца.

—Бр-р-р..., якая халодная вада. Але нічога.

— Бу-у-ух,—і ўсе ў вадзе. А пасьля купаньня адчуваеш сябе бадзёрым, жвавым.

Навокал—палі, лясы, сонца. У поўдзень—абед, адпачынак. Зноў:—На лодкі!...

* * *

Мігам праляцелі пяць дзён. Нарэшце, мы зноў дома. Усе загарэлыя, акрэпшыя.

**Кудланаў.**

# Гульні і забавы.

### Спаборніцтва Налётніка.

Першая гульня ў нас будзе з галіны тэхнікі. Умовімся што той выйграе гэтую гульню, хто на працягу пяці хвілін напіша большы лік слоў датычных чыгункі, паветранага, воднага альбо мясцовага транспорту, напр.: параход, аўтомобіль, руль, сэмафор, пропэлер, гудок, кондуктар, лётнік і г. д. Пасьля, калі будзем падлічваць напісаныя словы, ня будзем прымаць у падлік тыя словы, якія ўжо кім-небудзь напісаны. Заслухайце правілы гульні: 1) пісаць пачнеце па загаду павадыра; 2) заглядаць у пісульку суседа пры пісаньні нельга; 3) спынеце пісаць па загаду павадыра, і тады ўжо нічога прыпісываць нельга. *Для павадыра заўвагі:* 1) калі пройдзе 5 хвілін, усе ўдзельнікі гульні па чарзе чытаюць свае словы, і ў каго сустрэнецца напісанае кім-небудзь слова, дык закрэсьліваюць гэтае слова, усе, хто напісаў яго; 2) канчатковыя вынікі падліку абвяшчаюцца пасьля двукратнага правядзеньня гульні. Першы выйграўшы атрымлівае званьне лётніка. Чаму, вы запытаеце, даецца званьне лётніка, а не машыністага, шофэра і інш.? Ды таму, што аэроплян самы хуткі сродак зносін: вы ведаеце, хуткасьць пасажырскага параходу 18—22 кілёмэтры ў гадзіну, пасажырскі цягнік—42, аўтомобіль—да 150, аэроплян да 160—300.

На манер гэтай гульні можна правесьці і другую, падобную ёй—замяніць словы, датычныя сродкаў зносін, назвамі гарадоў і рэчак, на якіх стаяць гэтыя гарады, і інш.

Гульні такія цікавыя і ў той-жа час штурхаюць удзельнікаў да набыцьця ведаў і навыкаў.

### Што з гэтага выйдзе?

Гэтая гульня вясёлая і жартлівая.

Усе ўдзельнікі садзяцца за стол, разьлічваюцца па 4. Кожны першы нумар малюе наверсе лістка паперы якую-небудзь галаву (чалавека, жывёлы, птушкі; сьмешную ці страшную), потым загінае верхнюю частку паперы так, каб нельга было бачыць, што намалёвана, і передае свой лісьцік суседу з левага боку. Сусед, ня бачачы галавы, прымалёўвае да яе шыю, загінае лісьцік, передае чарговаму суседу, той малюе тулава, а чацьверты прымалёўвае ногі. Пасьля гэтага лісьцікі зьбіраюцца, і павадыр дэмонструе ўдзельнікам гульні, якія атрымаліся фігуры. Атрымліваюцца цікавыя малюнкі, напр., галава кракадзіла, шыя бацяна, тулава рыбы, а ногі зайца; альбо яшчэ так: галава Мусаліні, шыя гуся, тулава каня, ногі чалавечыя. Можна гэтую гульню паўтарыць 2-3 разы. *Заўвага павадыру:* пры загінаньні паперы ўдзельнікі гульні павінны адзначаць кропкамі тыя мясьціны, дзе скончылася галава, альбо шыя, тулава, інакш тулава не злучыцца з шыяй, ногі з тулавым.

### Тэлефон нямых.

Усе ўдзельнікі гульні садзяцца ў рад. Павадыр шэпча на вуха седзячаму з краю якое-небудзь слова, якое адзначае дзею, той паказвае гэтую дзею рукамі свайму суседу, сусед, як зразумеў гэтую дзею, так і перадае яе дзеяй-жа пасвойму трэцяму і г. д. Калі гэтая дзея абыдзе ўсіх, павадыр пытае апошняга, што ён рабіў, той адказвае словамі, затым гавораць і астатнія па чарзе. У выпадку калі дзея перадана правільна, павадыр мяняецца, калі-ж няправільна, дык, павадыр гульні дае новую дзею.

Як ні здаецца, што перадаць проста, на справе далёка не заўсёды адгадваюць. Напр., павадыр сказаў слова: „чытаць кнігу“, першы ўдзельнік злучыў далоні і быццам-бы чытае кніжку, аднак другі думаў, што той разглядае сябе ў люстэрка, і паказвае чарговаму суседу. Таксама глядзіць ў далоні, але робіць ужымкі, трэці лічыць, што сусед паказвае з сябе малпу, перадразьнівае яе, і гэтак далей, а ў выніку нічога падобнага на зададзеную дзею не атрымоўваецца.

Калі каму патрэбна запытацца аб чымнебудзь у Нямеччыне, у Кітаі, ці ў Аўстраліі—ён піша на аднэй гэтай мове ўсюды і ўсюды яго разумеюць. Калі прыходзіцца часам паехаць у чужы край, там ён заўсёды знойдзе эспэрантыстых, якія яму дапамогуць.

Тры астатнія гады асабліва пачала пашырацца гэтая мова сярод рабочых, якія перапісваюцца паміж сабою, ня гледзячы, якая гэта старонка, ці Англія ці Гішпанія—усё роўна разумеюць адзін аднаго.

Перапісваюцца і школьнікі. Напрыклад, нашы школьнікі з Іркуцку (Сібір) атрымалі цікавыя рэчы ад школьнікаў Новай Зэляндыі (каля Аўстраліі), школы Адэсы зносяцца са школьнікамі паўднёвай Амэрыкі.

Перапісваюцца таксама і піонэры. Самі пішуць проста ў Нямеччыну ці ў Швэцыю і проста адтуль атрымоўваюць лісты, бяз усякіх клапот, бяз усякіх перакладаў.

У эспэрантыцкіх часопісях вы часта сустрэнеце абвяшчэньне, што такія вось і такія вучні хочуць перапісвацца з чужаземнымі таварышамі. І вось, гэтая фотографія з горнымі дзяцьмі, якая зьмешчана ў гэтым нумары, атрымана такім самым чынам з Афрыкі.

Некаторыя могуць запытацца, чаму-ж гэта аб такой вялікай і добрай справе, якая існуе 40 гадоў, так мала ў нас ведаюць?

На гэта трэба адказаць, што гэта справа чыста *добраахвотная*. А добраахвотна ня кожны возьмецца і давядзе да канца. Мы ведаем, што з вас зацікавяцца многа сот чалавек, але з гэтых сотняў наўрад ці знойдзецца дзесятак, які вывучыць мову. Хоць яна і лягчэй у 10 раз, але ўсё-ж такі і на гэта трэба стараньне і час. А часу на гэта патрэбна ня менш году. Здольныя і адукаваныя могуць вывучыць за месяцы тры.

Яшчэ адна акалічнасьць: таму, хто ведае эспэранто, ужо значна лягчэй вывучыць і іншыя чужаземныя мовы, ці ангельскую, ці нямецкую, бо ў яго ўжо будзе фундамант для гэтых моў.

Шмат эспэрантыстых такім чынам вывучваюць іншыя чужаземныя мовы, з дапамогай свайго таварыша з чужой краіны.

Усе выгады ад такой агульнай мовы нават цяжка пералічыць. Гэты артыкул мае сваёй мэтай толькі крыху азнаёміць з гэтай справай, якая пачалася 40 год назад.

А калі хто сур'ёзна і практычна зацікавіцца, могуць у нас запытацца асобна.

Я. М.

ЦАНА 12 кап.




## Запаліць запалку газэтай.

Прапануйце таварышу зрабіць гэта. Ён, мабыць, пачне чыркаць запалкай аб газэтны ліст, у спадзяваньні ўспламяніць яе галоўку пры дапамозе трэньня. З фосфарнымі запалкамі, якія ўжываліся даўней, гэта, можна думаць, і ўдалося-б, але сучасныя „швэдзкія“ запалкі бескарысна і спрабаваць запаліць такім чынам. Не, задача, пастаўленая ў загалоўку, куды хітрэй. Калі дадаць яшчэ, што запаленая газэтай запалка будзе *гарэць не згараючы*, дык яна здасца вам зусім нявыкананай.

І ўсё-ж такі мы праробім гэта.

Вазьмеце звычайны газэтны ліст, распастрыце яго на кафлях напаленай печы і правядзеце па яму некалькі раз адзёжнай шчоткаю, як робяць абойшчыкі, прыгладжваючы абоі. Вы ўбачыце, што газэта прыстане да печкі і будзе на ёй трымацца. Тады пагасіце ў пакоі сьвет (вопыт робіцца ўвечары) і, трымаючы газэту за верхні край, адлучэце яе ад печы. Цяпер застаецца прыблізіць да гэтага газэтнага лісту кончык запалкі,—прыкладна на адлегласьці 5-10 сантымэтраў,—каб убачыць, як гэты кончык ахопіцца полымем. Вадзеце запалкаю блізка газэты (не датыкаючыся ёю да паперы)—і полымя будзе працягваць гарэць. Пры усім тым, аднак,—і гэта асабліва цікава,—полымя не прынясе запалцы ніякай шкоды: запалка застанецца чыстай, неабугленай.

Разгадка ўсіх гэтых нязвычайных рэчаў у тым, што запалка—наперакор вачавідкам—зусім не гарэла. Тое, што вы гатовы былі прыняць за полымя, было бясшкоднае халоднае *электрычнае асьвятленьне*. Высушаны на печцы ліст газэтнае паперы наэлектрызаваўся ад трэньня шчоткаю; прыблізіўшы да гэтай наэлектрызаванай паперы запалку, мы выклікалі на яе кончыку тое электрычнае сьвячэньне, якое зьяўляецца на кожным востры, што знаходзіцца блізка наэлектрызаваных рэчаў. Гэта асьвятленьне нічога ня мае агульнага з полымем: яно не апальвае і не абвуглівае,—наогул, зусім бясшкодна. Цяпер і нядзіўна, што запалка засталася несапсаванай.

---

### Колькі важыць рыба?

Хвост рыбы важыць 4 кг., галава важыць стольkі, колькі хвост і палавіна тулава, а тулава столькі, колькі галава і хвост. Колькі важыць рыба?

### Шэсьць вартаўнікоў.

Для варты саду была ўтворана арцель з 6-ці чалавек. Першы вартаўнік адпачынаў кожны 7-ы дзень; другі—кожны 6-ы дзень; трэці—кожны 5-ы дзень; чацьверты—кожны 4-ы дзень; 5-ы—кожны 3-ці дзень.

Паспрабуй вылічыць, колькі раз у працягу году сад застаецца зусім без вартаўнікоў. І колькі разоў у працягу першай сотні дзён здаралася, што ўсе шэсьць чалавек вартавалі разам.

### Задача аб 3-х замках.

Тры рабфакаўцы жывуць у адным пакоі. У кожнага свой замок і свой ключ, непадыходзячы да іншых замкоў.

Усім здараецца прыходзіць і выходзіць у розны час. Перадаваць ключы няма каму, хаваць у вызначаным месцы нельга—абкрадуць пакой. Як тут быць?

Вынаходлівыя рабфакаўцы прыдумалі спосаб зачыняць дзьверы так, што кожны можа прыходзіць і выходзіць у любы час, маючы толькі свой ключ.

Як яны зрабілі?

1-я дзярж. друк. Зак. № 2763. У ліку 2500 экз. Галоўлітбел № 25930.